Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі

Кафедра беларускага літаратуразнаўства філалагічнага факультэт Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С.Пушкіна

Брэсцкае аддзяленне РГА “Русское общество”

# *Адкрыццё-2009*

Зборнік лепшых твораў удзельнікаў літаратурных конкурсаў “Паглядзі на Брэст над Бугам, колькі хараства!..” і “Сугучча слоў жывых”

Брэст
ААТ “Брэсцкая друкарня”
2010

У гэтай кнізе сабраны лепшыя творы ўдзельнікаў літаратурнага конкурсу для дзяцей і моладзі “Паглядзі на Брэст над Бугам, колькі хараства!..”, абвешчанага Брэсцкім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі ды кафедрай беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С.Пушкіна ў 2009 годзе ў гонар юбілею Брэсцкай вобласці і 65-гадовага юбілею яе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Другую частку зборніка складаюць лепшыя вершы на рускай мове ўдзельнікаў яшчэ аднаго літаратурнага конкурсу – “Созвучье слов живых”.

## Адкрыццё! Ізноў адкрыццё!..

“Паглядзі на Брэст над Бугам, колькі хараства!..” – так называўся конкурс творчых работ сярод дзяцей і юнацтва, абвешчаны ў пачатку 2007 года Брэсцкім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі ды кафедрай беларускага літаратуразнаўства філалагічнага факультэта БрДУ імя А.С.Пушкіна. Радкі з верша Міколы Засіма ўзяты для назвы конкурса невыпадкова, бо прысвечаны ён быў 990-гадоваму юбілею г. Брэста і 65-годдзю вызвалення Брэсцкай вобласці ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. А гэты твор, бадай, адзін з найбольш дасканалых з усіх, якія калі-небудзь прысвячаліся нашаму роднаму абласному цэнтру, нашаму старажытнаму Берасцю.

Як і ў папярэднім зборніку, у гэтым таксама вельмі прыемна канстатаваць, што школьнікі, студэнты, старэйшая моладзь праявілі надзвычайную актыўнасць, у выніку чаго на конкурс паступіла больш за дзве сотні работ. У большасці сваёй яны выкананы на вельмі высокім мастацкім узроўні. Таму, прадстаўляючы ў зборніку пераможцаў, ёсць пільная неабходнасць агаварыцца: тыя, хто не атрымаў Дыпломы пісьменніцкага аддзялення, не горшыя за пераможцаў творцы; відаць, проста гэта быў не іх год. А ў наступным яны абавязкова зоймуць прызавыя месцы. Тым больш, што ўзроставы цэнз дазваляе тое рабіць ажно да дасягнення трыццацігадовага ўзросту.

Ну, а дыпламанты ў любым выпадку заслугоўваюць таго, каб назваць іх імёны ў гэтай кароценькай прадмоўцы: Латышкевіч Маргарыта Юр’еўна, Мароз Кацярына Сяргееўна, Прыка Маргарыта Захараўна, Гансецкі Максім Юр’евіч, Амельянчук Вольга Андрэеўна, Курдзюмава Вольга Юр’еўна, група вучняў Лунінскай САШ.

Намінанты, як і належыць, атрымалі ўзнагароды, каштоўныя кнігі, салодкія падарункі з рук старшыні Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта Канстанціна Андрэевіча Сумара на велічным літаратурным свяце “Лунінская восень”. Тут юныя творцы адначасова былі сведкамі ўручэння абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка лаўрэатам Алесю Паплаўскаму і Аляксандру Юдзіцкаму (проза), Ніне Мацяш (паэзія) пасмяротна, Анатолю Бензеруку (дзіцячая літаратура).

У гэтым сшытку, як і ў папярэднім, сабрана лепшае з дасланага на конкурс, у тым ліку, вядома, і творы пераможцаў. Тым часам літаратурнае спаборніцтва працягваецца. Сёлета яно азорана вялікімі перамогамі ў Грунвальдскай бітве і Вялікай Айчыннай вайне. Наступныя конкурсы таксама ж будуць прымяркоўвацца да велічных дат, прычым, не толькі тых, якія маюць дачыненне да мастацтва, культуры, але і агульнанацыянальных, аднолькава важных для ўсяго беларускага народа.

Зрэшты, не толькі тыя, хто творыць па-беларуску, могуць быць удзельнікамі як гэтага, так і іншых конкурсаў. Шмат допісаў паступае ў Брэсцкае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і на рускай мове.

Так, у 2009 годзе Брэсцкім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і Рэспубліканскім грамадскім аб’яднаннем “Русское общество” быў абвешчаны конкурс “Мы народжаны дзеля натхнення”, прысвечаны 210-годдзю з дня нараджэння А.С.Пушкіна і 200-годдзю з дня нараджэння М.В.Гогаля. Праводзіўся ён у дзвюх намінацыях: “Паэзія” і “Малая проза”; у розных узроставых катэгорыях. У конкурсе прынялі ўдзел больш за 150 чалавек з усіх куткоў Брэстчыны. Сярод 19 пераможцаў – прадстаўнікі 10 гарадоў і раёнаў вобласці. У Міжнародны дзень паэзіі, 21 сакавіка, у Брэсцкім ліцэі №1 імя А.С.Пушкіна адбылося літаратурна-музычнае свята “Мы народжаны

дзеля натхнення”, на якім былі ўганараваны пераможцы конкурсу. У гэтым зборніку прадстаўлены таксама лепшыя творы ўдзельнікаў і гэтага літспаборніцтва.

Дасылайце нам свае творы. Галоўнае, каб у іх было нешта блізкае-блізкае да азначэння “Адкрыццё”. Дзякаваць Богу, такіх тэкстаў нямала, у чым вы ў чарговы раз пераканаецеся, прачытаўшы гэты сшытак.

*Анатоль Крэйдзіч,*
*старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

***Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ,***
*студэнтка 4 курса філфака Белдзяржуніверсітэта*

***

Неруш.
Зялёны мурог.
Некрануты абшар лясоў.
Мелодыю склаў Бог
Для птушыных званоў-галасоў.
Коціцца кропляй рос,
Ападае ў мурожны луг
Сонца. Сярод бяроз,
У сонцы і ззянні – Буг.
Кожны ўздых – сон,
Трызненне мудрых дубоў.
Вербам аддам паклон
Над плынню мінулых гадоў.
Любасць і вера мая,
Пушча, адвечны сум!
П'ю сваім сэрцам я
Бярозавы сок тваіх дум…

***

Самая прыгожая краіна –
Дзе шуміць пад ветрам сенажаць,
Дзе ў малых буслоў мацнеюць крылы,
Каб між хмар сярэбраных лунаць;
Дзе лясоў птушыныя напевы
Пра маленства будзяць успамін,
Дзе бярозкі цень ля шляху белы,
Дзе мінула многа соцень зім;
Дзе ўсе сцежкі пераплёў вятрыска,
Дзе смяюцца пад дажджамі льны,

Дзе на золку сонца спіць ў калысцы,
Як калісьці спачывалі мы.

**Буг**

За шэрай імглою, за туманом,
За павуціннем шляхоў
Спіць Буг залаты, неспакойным спіць сном
Ў далонях сівых берагоў.
Віруе вада, ляціць наўздагон
За хваляю хваля – вір;
І Буг непакоіцца, стогне, бы звон,
Надарма ўразаецца ў жвір.
А сніць ён, відаць, нешчаслівыя сны,
Трывожыцца, нема гудзе,
І так пакутуе; да самай вясны
Няма адпачынку вадзе.
О Буг мой сівы, язычніцкі бог,
Золатапенны прыбой!
За шэрай імглой, забязмежжам дарог
Твой вобраз шумлівы са мной.
І мне не згубіць цябе ў часе, і я
Твой плёскат здалёку лаўлю;
Сціплая, звонкая рэчка мая,
Як я цябе люблю...

**Да прыяцеля**

Аднаго табе, сябра мой любы, ніколі не раю:
Не шукай, я прашу, на зямлі гэтай лепшага краю,
Не ляці як далей, толькі-толькі расправіўшы крылы,
Не цурайся таго, што з дзяцінства і люба, і міла,

Не губляй ты карэнняў сваіх у зямлі іншамоўнай,
Звычай строгі чужы не ўціскавай у сэрца гвалтоўна,
Не забудзься на матчыны рукі і першыя крокі,
На салодкі нябёсны блакіт, невымоўна глыбокі;
Цвёрда ведай, хто ты і адкуль ты з’явіўся
І адданы будзь роднай зямлі, на якой нарадзіўся.

**Бяссонне**

Ноч прыйшла.
На вокнах серабрыцца
Дробны пыл
Ад тлуму гарадскога.
Скрыгат конікаў
Між траў бруіцца
І паўзе да самага парога,
Як рака.Зняможаныя хвалі
Шорсткіх гукаў
Коцяцца ў прасторы,
І здаецца:
Там ўздыхае мора,
Мора ценяў і бязважкіх рухаў.
Рэшткі дня
(пра іх забыла сонца)
Дагараюць ў залатым таршэры,
Шэпчуцца ў руках маіх аерам,
Плешчуцца на белае старонцы.
Ноч кратае мяккія фіранкі,
Льецца душнай сінню праз балкон
І нясе з сабою светлы сон,
Светлы сон – прадачуванне ранка.
Цень пляце карункі на сцяне,
Голас падае самотны п’яны

І спявае ціха, быццам ў сне:
“ой, дый рана, рана на Івана...”

Прыйдзе час, і знікнуць гарады,
Згасне, нібы свечка, нават памяць.
Застанецца толькі шэпт вады,
Конікі, спякота, ноч сляпая.

**Герані**

Ў маёй прабабкі на акне
Калісьці так палалі,
Чырвоны смех дарылі мне
Старэнькія герані.
Быў за акном асобны свет
І – свет на падваконні:
Сто тысяч зорак і планет
Ў гераней на далонях.
Сыры й такі зялёны пах
Жывіў усё ў пакоі,
І спелі казкі на вачах,
І цешылі малое.
Між тым у бабчыных руках
Вальс танцавалі спіцы,
І грукаў дождж ў старэнькі дах,
Нібы пытаў: - Не спіцца?
А вышыванкі на сцяне
нібыта ажывалі,
і з іхніх нітак ткалі мне
свой новы свет герані.
Ды ўсё мінула, як вада,
І знікла ў жоўтым жвіры;
Праліўся дождж, і шэпт аддаў

Рачной вадзе і вірам.
Але й на гарадскім акне –
Каб Горад сон не раніў –
Усмешкай цешаць вока мне
Старэнькія герані.

## Верлібр

Мая краіна – не проста
Маленькая плямка на карце
Еўропы;
Сваім абрысам яна нагадвае
Дубовы лісток, лісток, які
Моцна
Ўчапіўся за галінку, які
Прагне жыцця і кожную вясну
Зелянее
Зноў, на радасць добрым людзям;
Яму не страшныя вятры і громы
Нябёсныя,
Бо ён – сын самой Зямлі, ён
Кроў ад крыві яе і плоць ад яе
Плоці…
Жывым лістком з галінкі
Старога дуба-волата мая

## Зямля

Ўжо многа стагоддзяў спявае,
Гамоніць на мяккай сваёй
Мове…
Краіна мая – не проста

Маленькая плямка на карце
Еўропы.
Я памятаю пра гэта.
А вы?

***

Мая птушыная старонка:
Шыпшыны цвет, блакітны лён,
І жаўранак срабрыста-звонкі,
І чмеля басавіты звон;
Дарогі пакручастай стужкі,
Блакітны плёскат ручаін,
І ў небе чорным клінам – птушкі,
І лапы цёмныя ялін;
І золатам у лістоце – промні,
І соснаў у жвіры карані…
Дзе б ты ні быў, а вечна помні
Малюнкі роднае зямлі,
І дзе б ты ні блукаў, праклятым,
Адпеты, мёртвы ці сляпы,
А за цябе вісіць распяты
Ў блакіце жаўранак малы,
І за твае грахі вясною
Па тварыках старых бяроз
Празрыстай светлаю вадою
Цуркі пральюцца шчырых слёз…

…Мая птушыная старонка.
Аер. Блакіт. Зязюлін плач.
Клён кучаравы, зграбны, гонкі…
І кветкі вадзяной гарлач.

## Калі

Калі вы ніколі не дыхалі
Водарам мяккага свежага хлеба,
Калі ног босых вашых ніколі
Не ведала летняя цёплая глеба,
Калі з казачным цмокам ніколі
Не біліся вы мячом ва ўяўленні,
Калі сонца між пульхных аблокаў
Ніколі не ўражвала ваша натхненне,
Калі зоры для вас – толькі
Тысячы ззяючых кропак,
Калі пекнасці простай жыцця
Вы не бачыце ўнутраным зрокам,
Калі ёсць у мяне яшчэ
Тысячы тысяч «калі»,
Дык скажыце, як вы жывяце,
І наогул, ці вы жылі?

## Мая зямля

Мая зямля... Два слоўкі, а за імі –
Прадонне цёмнае скрываўленых вякоу,
Званы на вежах полацкай Сафіі,
Навалы чорныя нязваных чужакоў.

Мая зямля... Лясы, лугі, азёры,
Баравічок сыры сярод імхоў,
Звон пчолак залатых ў гаі зялёным
І звон вятрыскавых ў траве шагоў.

Мая зямля... Крылаты жораў хуткі
І жораў над калодзежам з вадой.

Мая зямля! І ў радасці, І ў смутку,
Уначы і ўдзень – заўсёды я з табой.

***

Я не аддам
На гора і пакуты
Мае палі,
Далекі небакрай,
І вербалоз,
Што да ракі прыкуты
Прасветлены
Бярозавы мой гай.
Я не аддам
Трывогам, ліхалеццям
Спакой лясоў
І векавечнасць хмар,
Дубоў старых
З нявечанае вецце
І кургановых
Белых вечнасць чар
Ў душы гарачай,
У душы трывожнай,
Я захаваю
Як адбітак – след
Красы старой суладнай
І вяльможнай
Абраз, што бедным
Васільком спавет.
З павагай, шчырасцю,
Перасцярогай
Я панясу яго
У свет з сабой,
Праз усе шляхі

І бітыя дарогі,
Пра недаверлівасць
Душы чужой.
І стрэлы ўсе,
Нянавісці атруты
Перш прапушчу...
Праз сэрца я сваё
Я не аддам
На гора і пакуты
Мой светлы край,
Адно маё жыццё...

***Каця Мароз,***
*ЦДТ Іванаўскага раёна,*
*вучаніца 8 “А” класа Іванаўскай СШ №4*

***

Вечар пяшчотна пяе калыханку,
Цішынёй ахінае мне плечы.
Частка да часткі складаю мазаіку
Пачуццяў сваіх чалавечых.

Тчэцца узор маіх думак крылатых.
Поўня застыла над борам,
Красою любуецца соснаў чубатых
Пад снежным вяльможным уборам.

Ціш зазвініць спеўнай ноткай шчаслівай,
На бліскаўкі зор распадзецца.
Зоркі засвецяцца ў небе застылым.
Святло на зямлю праільецца.

Успыхне у сэрцы прамень прасвятлення.
…Мазаіку думак складаю.
Радзіму складаю з шчаслівых імгненняў.
Душа аб любові спявае.

***

Працаўніца-зіма
Зіма скавала рэчак бег,
Надзьмула белы пышны снег.
Забінтавала глебы раны.
Ды так прыгожа і старанна!

Дыванам мяккім дол прыбрала,

Узорных покрываў наткала
І напляла яшчэ карункаў
З чароўным, казачным малюнкам.

Усё навокал абляцела,
А потым адпачыць прысела.
Без працы ўраз засумавала,
Заплакала і таяць стала.

***

Белавежская пушча
Святая святых Белавежская пушча!
Чароўны мой, велічны лес.
Тут стомлены сядзеш пад дубам.
І целам, душой адпачнеш.

Тут думак узнёслых бязмежжа.
Тут радасць, прыемнасць, спакой.
Тут песню пяе Белавежа.
І сэрца пяе разам з ёй.

Дубы тут выпростваюць спіны
І цягнуцца верхам да зор.
Тут радасны клёкат буслiны
Гайдае бязмежны прастор.

Чырвоную медь тут сасонкі
Ліюць у зялёны паўзмрок.
Няма мне мілейшай старонкі,
Чым мой белавежскі куток.

Тут папарацьк- кветку шукаюць,
Тут шчасце лагодай плыве.

Паэты тут вершы складаюць,
Тут добрая казка жыве.

Стагоддзі тут з ветрам у грывах
Імчаць у бязмежны прасцяг.
Мой кут! Ты – гаючая сіла,
Ты лёс мой, адвечны мой шлях.

**Мова**

Ты як водар ласкавага ветру,
Таямнічая казка бяроз,
Сонца промень, што плешчацца ў нетрах
Набрынялых блакітам нябёс.
Беларускае роднае слова,
Ты на крылах бусліных ляціш,
У палях залацістых жытнёвых
Дзіўнай песняй зярнятак звініш.
Ўсемагутная дзіўная мова –
Падарунак ад шчодрых нябёс.
Хто забудзе цябе – таму гора,
Бо пагардлівы – страчвае лёс.

***Маргарыта Прыка.***
*У 2006 годзе скончыла сярэднюю школу № 12 Пінска.*
*З 2006 года – навучэнка Пінскага каледжа УА“Брэсцкі Дзяржаўны Універсітэт імя А.С. Пушкіна”*

**Радзіма**
Адкажы, што быць можа цудоўней
Родных ніў ці рачных берагоў?..
Тут у сэрцы ўзнікае раптоўна
Да Бацькоўшчыны нашай любоў...

Адкажы што быць можа цудоўней
Шуму дрэў, ціхай жальбы палёў?..
А ці ёсць ў свеце штось верагодней
Зімняй роспачы хвойных гаёў?..

Адкажы што быць можа цудоўней
Бусла клекату ў час веснавы,
Калі хочацца шыры прывольнай
Ды на поплаве роснай травы?..

Адкажы, што быць можа цудоўней
Мілагучнасці мовы маёй?..
І няхай мяне кінуць ў катоўню –
Не зракуся Радзімы сваёй!

**Добрае слова**

Аснова святла і любві.
Душы чалавечай ахова,
Паэтаў сябрук – візаві.

Ты – промень у цемры бясконцай,

Багацце, што не падлічыць.
Над светам ўзыходзіш, што сонца,
Згадаеш, як правільна жыць.

Прыносіш у сэрца надзею,
У думкі – празрыстасць, святло.
Пачуцці прыгожыя спеюць,
Каб шырыць паўсюдна дабро.

Ты робіш свет асэнсаваным,
Ты дорыш адметны настрой,
Калі ранкам чую ад мамы:
-- Садзіся, дачушка, са мной…

Чароўнае добрае слова –
Аснова святла і любві.
У час – і ў лагодны, й суровы
Заўсёды ты з намі жыві!

**Узыход сонца**

Ружовае сонца з ружовага неба
Глядзіць на ружовыя кветкі і глебу.
Ружовыя хвалі у аблокі глядзяцца,
Ружовыя кроплі ляцяць забаўляцца.

Ружовая ўся сенажаць і палі,
Ружовыя промні на жыта ляглі.
Ружовая сцежка, ружовы лясок,
Ружовая рэчка, такі ж каласок!

Ружовыя дрэвы ў паветры звіняць…
Майго захаплення не перадаць.

Натхненне раптоўна на сэрца находзіць,
Ружовы ўвесь свет, калі сонца ўзыходзіць!

**Я не развітваюся!**

Бывай…Я знікаю з мары тваёй,
Да сонца ўзлятаю ў сіні абсяг.
У аблоках знікаючы, быццам анёл,
Імкнуся схаваць рэшткі шчасця ў вачах.

Бывай. Не турбуйся,
Не трэба журботы.
Паветрам частуйся..,
Мо зведаеш потым,

Што там, ў глыбіні,
Недзе ў сэрца далёка,
Ляжаць нашы дні
На блакітных абломках.

Бывай… Не кажу я табе “назаўсёды”.
…Аднойчы, пабачыўшы водблеск світання,
Ты вернешся ў думках пад светлыя зводы,
З усмешках успомніш былое каханне.
Бывай.
Сонца раннем падорыць лагоду.
То не развітанне,
А звыкнуцца
Спроба.

## Тут павінна быць назва!

Простыя звычкі.
Вочы – дзве знічкі.
Розныя выразы твару…
Нехта прарваўся ў мару.

Нехта так невыпадкова
Ўсмешкай крануў дзесьці струны
Недасягальнай душы.
І не знайшоў паратунак…

Сонцам заліты ў бурштын,
Промень гаючага свету
Думкі стралой зварушыў, –
Дзіўная з'ява сусвету!..

…Тут павінна быць назва!
Усе гэта – непамылкова.
Я не шукаю адказу.
Дзе тое трапнае слова?..

Але усе ж такі я адчуваю:
Назва тут неабходна
Пачуццям, што у сэрцы трымаю…
-- Гэта збудзецца?
– Усе верагодна!

## Навошта жыве чалавек?

Навошта жыве чалавек?
Навошта на свет нарадзіўся?
Затым, каб пражыць свой век,

Каб хтосьці аб ім клапаціўся,
Каб хтосьці дапамагаў
І ў цяжкасцях, і ў цянётах,
Каб хтось разам з ім спазнаў
Натхненне любімай работы,
Каб хтосьці рабіў дабро
Яму і астатнім людзям,
Каб хтосьці любіў сяброў,
Якія яго не забудуць,
Каб хтосьці любіў свой край
І быў яго патрыётам,
Каб хтосьці патрапіў у рай,
Прайшоў праз усе нягоды?..
Навошта жыве чалавек?
У кожнага з нас –
Ёсць у душы адказ,
Але слухайся ты аднаго –
Голасу сэрца свайго!

## Пад зорамі

З табой ідзем пад зорамі –
У свеце ліхтароў.
Любуемся сузор'ямі,
Пульсуе ў венах кроў.

Твае размовы слухаю,
Хаваю позірк свой.
Ўсміхаюся са скрухаю –
Ўсё змыецца слязой.

Ніколі не пабачыш ты
Той цяжар, што ў душы.

Кавалкі шчасця, як лісты,
Ты трапным зрокам зварушыў…

## Самым лепшым прысвячаецца

Прыгожая палова чалавецтва
Не проста так існуе ў прыродзе,
Бо кожнае дзіця яшчэ з маленства
Ляпеча слова “мама” ў асалодзе.

Са святам вас, жанчыны, гаспадыні!
Красуні, каралевы і багіні!
Пакуль вы існуеце ў гэтым свеце,
Надзея і любоў есць на планеце!

## Проста

Калі з’ядае душу цемра,
Калі бяссільны ўжо трываць,
Ты расчыні ўсе вокны, дзверы
І рок-н-ролл пачні іграць.

Няхай збянтэжацца суседзі,
Няхай зусім не Ленан ты.
Гітара з ружаю на снезе –
Амаль як раннія бітлы…

**Аднойчы**

Чакаю…
На зоры гляджу ў адзіноце.
Губляю
Апошнюю веру ў самоце.
Трымаю
Пустыя лісты на каленях.
Гукаю
Ў паветры Музу Натхнення.
На беразе
Сумная кнігаўка плача.
Пад ветразем
Знікне адчай і няўдача.
Зжаўцеюць
Белы старонкі у сшытках,
Паспеюць
Словы і стануць здабыткам…

***Вольга Амельянчук,***
*гімназія №2 г.Брэста*

***

О, Беларусь – азёрная старонка!
Люблю свой родны і прыгожы край
За то, што ў ім спяваюць птушкі звонка,
Шуміць зялёны гай.

За то, што поле каласіцца поўным зернем,
Шумяць камбайны ў жыце ля ракі.
І звонка сустракаюць сонца пеўні,
А я ўплятаю песні у радкі.

***Вольга КУРДЗЮМАВА,***
*11 “А” СШ №12 г. Пінска*

* * *

Вясны загадкавы малюнак -
Зімы апошні белы крок,
Як той кахання пацалунак,
Што сэрца растрывожыць змог.

Усё на свеце мае межы…
Сустрэча - гэта крыж дарог.
Ад нас нічога не залежыць -
Лёс вызначае толькі Бог.

***

Любы Пінск - мой куточак Палесся,
Што ў душы назаўжды зберагу.
Птушкай хутка злячу ў паднябессе
І не здраджу гнязду, не змагу.

Родны край, як люстэрка дзяцінства,
На далонях азёраў і рэк.
Пераможа дабро над злачынствам -
Не парушыць суджэння вавек.

* * *

Бяжыць, ляціць жыццё
Хвіліна за хвілінай.
Мінае забыццё
Легендай складнай, дзіўнай.

А што чакае нас

У будучыні хуткай?
Як сад вясновы, час
У вопратцы бялюткай?

Ці, можа, лістапад
У залатым кафтане?
Усё жыццё - парад,
Але такі складаны...

## На далонях вясны

Красуе вясна на прасторах Палесся,
У госці мяне запрашае ласкава:
У далеч палёў, у блакіт паднябесся,
У гоман птушыны,у росныя травы.

Прытулак знайду пад галінай бярозы,
З губ смагу вадзіца крынічная зніме.
Бяжыць па сцяжынцы хлапчыначка босы,
Мяне ён натхняе на верш аб Радзіме.

## "Прыгажосць выратуе свет"

Прыгажосці чароўны наказ -
Старажытных часоў запавет.
У паэзіі скарб мой якраз,
Праз жыццё пранясу верш у свет.

Не згублю той праменьчык святла,
Тую мару дзяцінства майго –
Сэнс у ветразі белым знайшла,
У святым скрыжаванні радкоў.

***Максім Гансецкі,***
*1987 г. нар.; Віцебская Дзяржаўная Акадэмія Ветэрынарной Медыцыны.*

***

Памаўчым… Тры кропкі ў цішыні…
Шклом ліхтарыць хваляванне Буга.
Хараство з журбою ажаніў
Гэты лёс, як пачуцця аструга.

Паглядзі на Брэст праз успамін,
Праз вуголле травеньскае цемры,
Праз крышталь заснежаных галін,
Праз жыццё, што воку непамерна.

Як дрыготка гэта прыгажосць!,
Кропляй у саламянае праменне
Вецер прапановывае штосць
Закаханым у кожнае імгненне.

Пацалункам чарназём кранаць,
Назіраць за срэбрам маладзіка.
Па-над Бугам у росы апранаць
Постаць яблыні, гарэзлівай и дзікай.

Гора соль и радасці пяшчота
Ў крыві той сіняе вады,
Порах ды гармонікавы ноты
Праз церазпалосіцу бяды.

Па-дзіцячы выпінае губы
Раніца ў каўнерыке суніц.
У шыбу крочыць шапаценне дуба

Подыхамі веначак-крыніц.

Тысячу гадоў без дзесяці
Горад жыў пад купалам індзіга.
Усё Бярэсце колерам сядзіб
Разам з Бугам нарадзілі дзіва.

***Наталья НЕВАР,***
*учащаяся лицея №1*
*имени А.С.Пушкина г. Бреста*

***

Улицы наполнены сердцами,
Улицы наполнены морозом,
Серыми, потертыми листами
С одинокой веточки березы…
Улицы пропитаны обманом,
Улицы заснежены мечтами,
Тротуары лопаются ядом,
Поменявшись местом с небесами.
Улицы так холодно встречают,
Улицы нас прячут друг от друга,
Сотнями ненужных глаз сверкают,
Путая и проводя по кругу.
Я иду по ним и размышляю…
Улицы подслушивают мысли:
Просто механически кивают,
Как часы, когда из строя вышли.
Улицы забиты моим прошлым,
Улицы зевают ожиданьем
Всех моих наивных, дерзких, пошлых,
Откровенных, пламенных признаний.
Я, пытаясь спрятаться, шагаю
Под прицелом сотен тысяч глаз,
Вдруг остановившись, понимаю,
Что люблю… И выбираю нас.